# „МАЛАНКА“

## ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ.

# 1928.



Рэдакцыя „МАЛАНКА“ Вільня, Гэтманская вул. № 2.

Друк. Крайнас і Кавальскі Вільня, Вялікая 39.

ГОД ВЫДАН. III. Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem ЦАНА 30 ГРОШ.

# Маланка

ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ

25. VIII. 1928 „МАЛАНКА" СМАЛІЦЬ-ШТО-ДВА-ТЫДНІ! № 8

## Чакай, бабка, Пятра — сыр зьясі!..

(*Народная пагаворка*).

10—11-га гэт. м-ца ў Брусэлі адбыўся міжнародны кангрэс соцыялістаў (ІІ-га Інтэрнацыяналу), на якім, паміж іншым ухвалена:

... „капіталістычная эволюцыя сама шыбкім тэмпам ствараe прыхільныя варункі для ўпадку капіталізму".

(«Polska Wolność», № 36).




Соцыялісты (*жоўтыя*): Чакайце, чакайце! — Ня сьмейце яго рухаць, ён і сам лопне...



*З РАДАВАГА ГУМАРУ.*

# Клясавыя ворагі.

З вёскі ў Менск самагонка йшла хутка,
Насустрэчу-ж ёй польская „вудка“.
— „А, дзень добры! Як маешся, пані?“
Як ня чула таго прывітаньня,
Далей дыбае вудка дарогай,
— „Бач — набралася рызыкі многа,
Я-ж радня табе, чуць не сястрыца“.
— „Не хачу я з мужычкай радніцца,
Ты цягаешся ўсё з мужыкамі —
Заваліла ўвесь сьвет байструкамі
І сьмярдзіш так, як падла якая“.
— „Праўда, шчыра люблю мужыка я,
Любяць так-жа й мяне хлебаробы,
Так хацела-б і ты, ды хваробы,
Бо бяруць цябе толькі за грошы“.
— „Хоць за грошы, ды хлопец харошы,
Як, напрыклад, адзін з Наркамфіну,
То-ж ня хлопец, а проста маліна;
Там ня то, што які мужычына...
Дый сама хоць куды я дзяўчына,
Ня з мужыцкага — з панскага роду,
Нават пахну, ня маю смуроду;
З мужыком не траплюся ніколі,
Ня туляюся па завугольлі,
А гуляю, як добрая пані,
Без апаскі ў любым растаране
Ды яшчэ у асобным пакоі.
Абаўю свайго „душку“ рукою.
І мілуемся так аж да сьвету,
Не баімся папасьці ў газэту,
Бо і там“, — шэпча вудка на вушка:
„Такі самы ў мяне сядзіць „душка“ —
Хто адважыцца, буркне славечка?
А цяпер вось іду я ў мястэчка,
Там ёсьць фэльчар ды член выканкому,
Дык у іх я заўсёды, як дома.
Ты-ж ні ў лесе сабе, ні ў будынку
Не знаходзіш ніколі прыпынку;
Цябе бэсьцяць заўсёды і лаюць,
Так, як Марку па пекле, ганяюць,
Прасьмярдзелі табою й газэты“...
— „Дык на-ж вот табе, пані, за гэта,
Калі ты распанела ўжо вельмі,
Без цябе абыдуся, бяз шэльмы;
Ты сабе там з панамі ліжыся,
А мне лепей да густу прышліся
Людзі простыя, — вось, як сяляне,
І сама не хачу быць я паняй“...
Не гаворачы болей нічога,
Пашлі далей сваёю дарогай.

**Крапіва.**



## Крычы ура!

Цюй-га, ага! Сягоньня сьвята,
Крычы ура, „Эндэча“, „Пясьце“,
Хадэк і вы С.-Дэмакраты;
Дванаццаць годзікаў за краты...
„*Юш спокуй пэвны... лят дванасьце!*“
Цяпер і ліха—не бяда, —
Патухла, згасла Грамада!..
А колькі тых прыладаў, зброі
Штыкі, гарматы, а набоі...
А кулямётаў ой, ёй, ёй!
Антыпанствовых мэмор'ялаў,
А выбуховых матар'ялаў:
Гаршкоў са тры піраксыліны,
А сухароў, а сахарыны!
Ды рознай-рознасьці дабра...
Усё скісла, ўсё...— крычы ура!..
То трэба-ж лоўкасьць пяруністу
„Выцофаць глувных“ камуністаў,
Ды як цудоўна-урачыста!..
Цяпер і ў нас, эндэча-браце,
Пайдзе парадак лепшы ў хаце:
„*Сконьчона Бялоруска гра*“...
Сьпявай, скачы — крычы ура!
Ну, бойся-ж Бога, „грамадзісты“
Ўжо збунтавалі ўсё дачыста...
Чаўплі, крычалі галасіста,
Каб „хлоп“ падаткаў не плаціў,
Каб „*вшыстке Крэсы*“ замуціў..
Цяпер прышла і нам пара:
Цюй-га, ага! — Крычы ура!..
І хмары цёмныя слухалі
Эндэцкіх слоў шалёны сказ,
Віхры ў адказ заскавыталі:
„*Змагайся люд за лепшы час!*“

*М. Васілёк*

**Ад Рэдакцыі:**
Ня хочучы мець дачыненьня з „Кодэксам Карным“, рэдакцыя „Маланкі“ прапусьціла гэты вершы праз сваю цэнзуру, якая выразала некалькі радкоў. За гэта, а таксама і за значнае спазьненьне, рэдакцыя вельмі перапрашае паважанага аўтара.

## „Пауночны кірмаш“ у Вільні.

Пасол Янка Станкевіч адтрымаў ад палякоў 3.000 зл. на выстаўленьне беларускіх экспонатаў на „Паўночным кірмашы“ (Targi Północne).
(*З польскіх газэт*).




„**Спадар**“: — Паночку! ящчэ хоць трошкі...
**Урадовец:** Досыць, досыць! Бяры пан, а то ласку страціш.

## Сорам.

(*Прысьв. Скідзельскім хлопцам*).

У мястэчку быў я сёньня,
(Трэба-ж ўзьлесьці на бяду)
Чую ў хатцы тнець гармонік,
Эх, дай, думаю, зайду.

Там ігрышча. Усё ў парадку,
Як пісаў наш Крапіва,
Пашка тузае двохрадку,
Аж спацела галава...

Нек праціснуўся і я там,
Каб лепш бачыць, лепей чуць.
Ну, брат, хлопцы тым дзяўчатам
Ой, даюць дыхту, даюць!

То управа, то улева,
То упёрад, то узад —
Ў гэтай польцы ашалелай
Кожны зьвітны, як той гад.

Разахвоціўся і я тут,
Ну, падумаў, — крутану!
(Це' хвароба, — трэба-ж чорту
Зачапіці „Сатану“).

І з чаго, дальбо, ўзялося
На'т ня мог я разабраць:
Янка Грышку плясь па носе,
Той у зубы й ну пісаць...

—„Ты за што мне? А ты як сьмеў“?!
(Успомніў „матку“ заадно),
А я ходу... ледзь, ледзь здолеў
Ўжо ня ў дзьверы, а ў вакно.

Чую й тамака ля плоту
Крык:—„Трымай! бі, бі, ён вун“!
Частакол пайшоў ў работу —
А бадай-жа вас пярун!

Невялікая прыемнасьць,
Дый нялоўка неяк зноў
У прыгоршчах (трэсьне ў цемя!)
Нясьці голаву дамоў...

Хлопцы! Сорам, сорам, ганьба!..
Дзе ваш розум?! Толькі гляньма,
Колькі шкоды з тэй атруты! —
Час парваць цямноты путы,
Стаць сынмі свайго народу,
Каваць шчасьце, сеяць згоду,
А ня быці дзікунамі
**Хлопцы, моладзь!** — што-то з вамі?!...

*М. Васілёк.*

## Як пан галавой працаваў.

Аднойчы пан, як невядома,
У хату к мужыку папаў,
Пачаў крычаць ну, быццам, дома
І вельмі, вельмі зазлаваў.

Пан кажа: „То адно і тое —
Мужык зусім не чалавек,
Яго ўжо шчасьце ёсьць такое, —
Служыць ён мне павінен век“.

Мужык, паслухаўшы нямала,
Сказаў: „Быдлё таксама ёсьць і пан, —
Жарэць ён толькі мяса, сала,
Гадуе пуза, як кабан“.

Пачуўшы праўды гэтай слова,
Крыкнуў пан: „Быдлё! І ты раўняешся са мной?!
Мая ёсьць праца „умыслова“, —
Я ўсё працую галавой!“

Пан гневам ў момант запаліўся,
Са злосьці сьціснуўшы кулак,
Хутчэй к дзьвярам, дый памыліўся...
Раптам бух лобам аб вушак.

Устаў, ды неяк пасьлізнуўся,
Ізноў бух лобам аб парог,
Дый на падлозе расьцягнуўся,
Што доўга ўстаць з яе ня мог.

Мужык ўстрымацца ня мог са сьмеху,
Кажа: „Паночку, што з табой?!“
А яму жонка на пацеху:
— „Хай папрацуе галавой!“...

*Язэп Народнік.*

# Цярністым шляхам (эволюцыя чытаньня ў абразкох)




— Як толькі пачынаў чытаць, вясковы настаўнік мяне першы цягаў за вушы...




. . . У школе поп цягаў мяне за вуха, калі я ня слухаў яго лекцыі . . .




. . . Як падрос, паліцыянт цягаў мяне за . . . соцыялістычную літэратуру . . .




. . . І цяпер, калі я сяджу на „Лукішках“, вастрожны сторож цягне мяне да адказнасьці за чытаньне Беларускіх газэт і часопісаў.

## Панскі падліза.

Добра ведамы ваколіцы усей
Ёсьць у нас такі сабе Аўсей:
Мае нос, браткі, крывы, даўгі, —
Схож зусім да панскага слугі.

Сваім носам за намі ён сачыць,
Хто гавора што, а хто маўчыць;
Хто і дзе калі бываў,
Хто гасьцей к сабе прымаў.

Дзе зьбярэцца ў вёсцы карагод,
Ці гавора часам дзе народ; —
Жыг маланкай з крывым носам
ён туды,
Каб наробіць нам пасьля бяды.

Зьбегаўшы на пастарунак,
Зложыць ён аб усім „мэльдунак“,
Дый набрэшаць ён, яшчэ дaложа,
Што выдумаць толькі можа...

* * *

Аўсей сумленьня больш ня мае, —
Як з суседзямі жыць ня знае.
Дык вось, Аўсей, мая табе рада:
Кінь ты штучкі подлага гада.

Жыві заўсёды ў таварыскай
згодзе
У сваім беларускім народзе.
Крывым шляхам далёка не зой-
дзеш,
А як ад працоўнага народу адой-
дзеш,
Будуць людзі з цябе насьмяхацца
І, як падлы агіднай, чурацца.

І ў паноў згубіш ласку ты скора,
Прагоняць прэч цябе на зьдзекі
і гора;
Панская ласка, як кажуць нам
людзі,
Вылазіць цяжка, ой цяжка праз
грудзі!...

*Янка Бядак.*

*Ці маеце камплекты „Маланкі“ за 1927 год?*

# СЭКВЭСТРАТАР І КОТ.

*Маленькі фэльетон.*

Вы кажаце, што ніколі ня бачылі сэквэстратара?! Не паверу, заржэце, не паверу! Сэквэстратар,—гэта-ж як муха, як мыш, — усюды ўлезе, — у кожным кутку яго поўна! Старыя людзі, навет, кажуць, што сэквэстратараў Люцыпар на зямлю пасылае, каб больш мучыць людзей, бо ўсё роўна хутка канец сьвету будзе. Дык вось і разбрыліся яны па ўсім сьвеце, — ходзяць, сочаць, шукаюць, пішуць, апісваюць, цягнуць, бяруць. Няма таго дня, каб сэквэстратары якой штучкі не зрабілі.

Да мяне амаль штотыдзень сэквэстратар прыходзе, але што-ж, прыдзе, папіша, папіша, паківае мне пальцам пад носам, пакрычыць, пастрашыць, як у тэй песьні:

„І начыньне забраць, і худобу
прадаць,
„Што ў казну, то ў казну і
яшчэ камусь даць".

А я сабе сяджу, ды ўсьмяхаюся, сьвішчу на ўсю хату. Што ён, сабе думаю, мне зробіць, калі я гол, як сакол; як той казаў, ні кала, ні двара ня маю.

І праўда, як прыдзе, так і пайдзе сэквэстратар, ня солена хлябаўшы.

Праз тыдзень прыходзіць другі, пасьля трэці... Ну і што-ж? Ды нічога! Я сабе сьвішчу ім на злосьць, дый толькі.

Вы ня знаеце мяне, я — чалавек сьмелы!

Але які страх агортвае мяне, калі я прачытаю, часам, у газэце, што там а там, на вёсцы сэквэстратар забраў каня, карову, авечкі, сялянскі статак, жаноцкія спадніцы і гэтак далей. Колькі ў гэтым трагізму, роспачы, адчаю! Што селянін будзе рабіць без каня, плуга, бараны? або, напрыклад, гаспадыня без качаргі, чапялы, а навет спадніцы?!.

Бедныя, думаю сабе, коні, каровы, авечкі, куры, гусі! — Цягаюць вас, за сялянскі падатак па пастарунках, гмінах...

Шчасьлівыя, думаю, каты, — іх ніякі чорт не цягае. Разгульваюць свабодна па стрэхах. Пяюць людзям свае мілосныя рамансы... Эх, чаму, сабе думаю, я не радзіўся катом?!.

Аж раптам, чытаю я нядаўна ў жыдоўскай газэце „Овэнт Кур'ер" № 190, что ў Седлецах сэквэстратар апісаў... ката. Было гэта больш-менш так: да аднаго жыдапекара прыйшоў сэквэстратар і пачаў апісваць рэчы. Падлічыўшы, што мала апісаў, а больш апісваць ня было чаго, сэквэстратар заўважыў каля стала ката. Чырк, чырк і... кот запісаны да сьпісу за пяць злотых. Гаспадар пратэставаць, што як-жа ён ката ў хаце ўтрымае? але сэрца сэквэстратара, як сталь, зрабіў свае „чынносьці ужэндовэ" і да дому. А бедны жыд сядзіць і пільнуе ката. Ня жартачкі, — кот на „забэспечэне маёнтку паньствовэго" запісаны! Сам-бы цар пільнаваў, каб яму загадаў сэквэстратар!

Што далей было, газэта ня піша, але гэта лёгка кожнаму дагадацца.

Удзень яшчэ нічога,—лёгка ката ўпільнаваць, але ўночы!.. Гаспадар сьпіць. Кот сьпіць. Але ліха яго ведае, што кату ўночы захочацца,—хто-ж яго ўпільнуе. Пачуе, напрыклад, кот, што недзе на страсе:

— Мяууууууўў... мяууууууўў... мяууууууўў...

Бедная галовачка! — Ката тады за сту замкамі ня ўтрымаеш. Выскачыць ён на страху. Хто-ж парамансаваць ня любе?!

І шукай тады ветру ў полі.

А каб на гэту пару сэквэстратар!?

Што тады? — І штраф, і пратакол, і авантура.

Добра, што гэта дзеецца ў Польшчы, што яшчэ ў нас на Беларусі катоў не апісваюць. Бегаюць сабе свабодна, кахаюцца, шчасьліўцы, і бяды ня знаюць.

Мусіць такая аўтаномія ёсьць, ці што, што катоў у нас не чапаюць? То-ж у часе выбараў пэпээсы нам пра нейкую аўтаномію на „Крэсах" вушы пратрубілі. Можа гэта і ёсьць тая самая? Пэпээсы цяпер вялікімі панамі парабіліся,—сваіх маршалкаў Сойму, сваіх міністраў маюць. Маглі-ж яны зрабіць нам такую ласку, абвясьціць урачыста, так і гэтак, з дня такога, за нумарам такім абвяшчаецца:

**Аўтаномія на „Крэсах",**

што беларускіх і украінскіх катоў не чапаць. Што маюць яны хадзіць і бегаць свабодна на дабро і пажытак Краю і гэтак далей...

Але я Вас, беларускія сяляне і сялянкі ўсё-ж такі перасьцерагаю,— не давайце катом волі!

Усё можа стацца. Польшча, кажуць, край замахаў. Станецца якая-небудзь маральная санацыя, пераварот і... аўтаномію на „Крэсах" адменяць. Угледзіць тады сэквэстратар ката, апішаць, і рабі тады, што хочаш...

Дык вось, мае даражэнькія, лепш падзець дзе-небудзь катоў, або хаваць так, каб ня ўгледзела іх вока сэквэстратара...

*Язэп Маланка*

# Моцная праца.




**Польскі палітык:** Паглядзеце, на мапу... Гэта Польшча! Бачыце як мы яе ўмацавалі, каб не расьцягалі яе розныя „меншасьці".

## На заручынах.

Тамаш заручыны гуляе, —
Ідзець замуж дачка;
Шмат пасагу абяцае,
Цалуець зяцька:
— Вось табе, сынок, спачатку
Пяцьсот злотых дам,
А потым буду жыць ў дастатку
Шчэ столькі прыдам.
— Выбачайце! — зяцёк кажа;
Я праўду гавару:
Жонкі сабе нат прыгожай
На раты не бяру!...

*Міт.*

## Сам сабе матор.



**Ізвазец:** І мы нягорш самаходу! Таксама гаручым трымаемся.

*(З радав. гумару.)*

## Беларускі архіў.

Усе на сьвеце народы ў архіў аддаюць
Гаспадарства старыя паперы;
Дзе хаваюцца доўга яны й ня гніюць...
Стары факт з іх там можна праверыць·
Ў беларусаў—у нас гаспадарства няма,
Дык няма і архіву з папераў.
Хоць калісьці й былі, але зьела турма
І няволя ад дзедаў, прадзедаў.
Аднак-жа і мы усё-ж маем архіў,
Хаця ён не стары—новы будзе;
Бо ня так нам даўно яго лёс залажыў.
Не з папераў старых — з „быўшых людзёў“.
І вось першы дакумант архіву таго
Будзе пан „мэцэнас“ з сябрамі,
Прад пяцьма што гадамі хацеў усяго
І жадаў, жанючыся з панамі.
Ну і што-ж... не ўдалося... зусім правалію...
Сядзіць сёньня, маўчыць, зарабляе...
Што ўжо будзеш рабіць, як папаўся ў архіў,
За дакумант яго кожны прыймае...
А другі па чарзе—пан Валэйша ідзе,
Што калісьці пражыў дні газарду;
Ня чуваць яго славы сягоньня нідзе...
У „Jutrzency“ мяшае муштарду...
Людзём служыць,—абеды гасьцём падае —
Чалавек ён ад даўна гандлёвы,
Аб даўнейшым „сабраньні“ лятункі снуе,
Але што-ж?... ўжо дакумант гатовы...
Найсьвяжэйшы з дакумантаў усіх ўжо старых.
Краса дзён... пан „дохтар“ папаўся,
Што „лячыў“ Беларусь... Проч кішэняў сваіх,
Ні аб чым больш ня ведаў, ня знаўся
Замест лекаў, хваробы насеяў кругом,
На яе заляглі ўсе служакі...
Агіду за грошы пяюць ўсе людзём,
Прадаюць ўсё за грошы—вужакі!..
Далей-жа яшчэ ў архіў паплывуць
Па дарозе нямінучага лёсу:
Вярнікоўскі et cetera, што прадаюць
Народ свой! — ужо справу за грошы.
І так незадоўга, за пару гадоў
Архіў будзема мець для паказу
З дакумэнтаў адных усё „быўшых“ людзёў,
Не пералічыш, браток, іх адразу:
Умястоўскі, „Спадар“,
„Пан палкоўнік“, Мамонька, Ярэма,
А там... Назарэўскі і „Тодар“...
Адным словам вяліка бярэмя...

**Міт.**

### НЕДАГАДЛІВЫ.

У аднэй беларускай рэдакцыі, машыністка пытаецца ў свайго рэдактара:

— Чаму вы, паважаны рэдактар, да гэтай пары ня жэніцеся?

— Эх, даражэнькая Зоська, мне яшчэ ніхто не адказваў узаемствам.

— Ну, і які вы недагадлівы! — вы, пэўне, ня ўсіх аб гэтым пыталіся?

*Я. М.*

### БАІЦЦА, ЯК АГНЮ.

Местачковы камэндант асьвячаецца ў каханьні вясковай дзяўчыне і просіць яе згоды на шлюб.

— Ці згадзілася-б, Анатоля, быць маей жонкай, — будзеш паняй камэнданціхай.

— Не, ніколі на сьвеце.

— Чаму?

— Бо я заусёды думала-б, як пайшла-б з табой на спацыр, што ты мяне да арышту вядзеш.

*Я. М.*

## Па сьмерці.

Багатым, браце, хочаш быць?
Трэ' дзень і ноч табе рабіць,
Каб лёгка жыць было другім, —
Па сьмерці будзеш ты такім.

Ты вольна, браце, хочаш жыць?
Дык шчыра пану трэ' служыць,
У рог сагнуцца перад ім, —
Па сьмерці будеш ты такім.

Шчасьлівым, браце, хочаш быць?
Папом ахвяры трэ' насіць,
Маліцца Богу і сьвятым, —
Па сьмерці будзеш ты такім.

*Улад.—Ініцкі.*

### У РЭДАКЦЫІ „МАЛАНКІ“.

— Грамадзянін рэдактар, ці мае жарты будуць зьмешчаны ў „Маланцы“?

— Не, ня будуць, — няма ў іх гумару і нейкай сьцюдзёнасьцяй ад іх дзьмець.

— Гм... сьцюдзёнасьцяй... а я столькі над імі пацеў...

### НІЧОГА НЕ МАРНУЕЦЦА.

— У мястэчку Д. павятовы соймік будуе мураваны будынак. Архітэктар хваліць гэты будынак, кажучы:

— О, гэта праўдзівы польскі стыль. Гэта — прамень заходняй культуры на „крэсах“!

— Але-ж цэглы ўжо развальваюцца, — заўважвае нехта з натоўпу.

— Глупства! — адказвае архітэкт, — у нас нічога не марнуецца, —мы з кавалкаў ізноў цэглы робім.

*Р. Г.*

### ПАМІЖ БАБУЛЕК.

— Загневаўся Бог на нас і не даець пагоды. Ужо трэці тыдзень дождж ідзе.

— Дык якога-ж ліха будзе табе пагода, бачыш якія кароценькія спаднічкі пачалі цяпер насіць, усе лыдкі голыя.

— І калена...

— І за каленам.

— Моладзь ксяндза ня слухае.

— І ў руку не цалуе.

— І ў касьцёл ня ходзіць...

— Канец сьвету настае.

— Сусьветны патоп...

— Садом і Гіморы...

— Эх, каб Бог пазволіў гадкоў з дзясятак пражыць. — Я сабе нядаўна залатыя зубы справіла, дык шкада, што прападуць дарэмна...

*М.*

# Народны гумар.

### БАІЦЦА, ЯК ЗАРАЗЫ.

У вагоне з Варшавы да Вільні едзе беларускі пасол. Па дарозе да вагону ўлазіць „высокі ужэнднік“ з міністэрства. Паглядзеўшы на пасла, зморшчыўся, скрывіўся што ён апрануты ня так, як належыць пасажыру І-ай клясы. Паклікаў кандуктара, дый кажа вывесьці пасла.

— Ня маю права гэтага зрабіць, — адказвае кандуктар, — гэта — беларускі пасол.

— Як, беларускі? Грамадовец? Прашу занясьці мае рэчы да другога вагону. Ух!... *Кэп.*

●●

### НА ВУЛІЦЫ.

*Паліцыянт да сялян*: — *„Цо то за громада?“* Разыйдзіся!

*Сяляне*: — Мы не грамадоўцы, — мы за інтарэсам...

*Паліцыянт, не дачуўшы — А, пэ-пэ-эсы, то бардзо пшэпрашам. Чэсьць!...* *В. П.*

●●

### ЗЬМЯНІЎСЯ.

— Што з табой. Чаго ты гэтак зьмяніўся, пахудзеў? Ці не хварэў часам?

— Не, дзякаваць Богу, здаровы, але... я ўжо ня войтам...

*В. П.*

●●

### У ШКОЛЕ.

*Поп*: Скажы, Матэўка, што ты найперш павінен налажыць на сябе, як толькі ўстаеш рана?

*Вучань*: Нагавіцы, бацюшка... *С.*

●●

### КАРЫСНАЯ ПРАЦА.

— Не, як не кажы, а „Спадар“ робіць карысную працу для сялян.

— Якую?

— Як якую! Няўжо-ж ён не прысылае табе свой „Народ“? Вось, братка, папера! І курыць і селядцы заварочваць, і наагул, што хочаш, рабіць можна.

*Я.*

●●

### НІЧОГА ДЗІЎНАГА.

— Бач, у гэтай пані трохпаверхавы падбародак.

— Дык чаго зьдзівіўся, за тое яна і есьць адна за траіх.

*С.*

# „Газанулі“...

(*Праўдзівы абразок з вясковага жыцьця*).

— Гэй, Раман, Макар, Сьцяпан,
Да Бэркі хадзема!
Грашоў хрыху зарабілі
Дык і „газанема“!

Сёньня гэтакае сьвята, —
Хіба-ж мы ня людзі!
Чым-жа моладасьць сваю
Ўспамінаць мы будзем!?

— Праўду, праўду, Янка, кажаш, —
Хлопцы гукнулі разам, —
„Газаваць“ у карчму да Бэркі
Усе пашлі адразу.

Гадзін тры ў карчме па „флоцкі“
Хлапцы „газавалі“,
А як вышлі на вуліцу,
Дык калкі пабралі...

І калкамі на вуліцы
Ўсіх яны хрысьцілі,
Аж пакуль на пастарунак
Ўсіх не папрасілі.

Там сьпісалі пратакол
О *„заклуцэне спокою“*,
А за біцьцё падалі іх,
Да *„сонду пакою“*

І праз тыдзень *„наказ карны“*
Хлапцом даручылі, —
І па трыццаць злотых кары
Яны заплацілі.

Дык нашы хлапцы у Бэркі,
Добра „газанулі“!
А яшчэ лепш саміх
Сябе сьцебанулі...

**Міз.**

в. Шэні.

●●●●

# Эвангэльскі поп.

Вёз пана з хаўтураў Пётра
І ў дарозе гаманілі
Аб душы, пра Бога, чорта,
Што па сьмерці заслужылі.
(Поп быў добры абдзірала,
За драбніцы чуць ня драўся,
На'т сам Пётра насіў сала,
Бо прышлося нейк, папаўся),
Так гамоняць, поп пытае:
„Што мне будзе: рай ці неба?
Бо жыву я, Пётра знае,
Па эвангэльлю, як трэба!“
Пётра трошачкі замяўся,
Мо' прыпомніў сваё сала,
Хутка-ж сьмеласьці набраўся
І адказвае ласкава:
„Не бядуйце! Самі людзі
Бога просяць вашай сьмерці...
Дык і рай і неба будзе!
Толькі-б вас схапілі чэрці!“

**Улад.-Ініцкі.**

# НАША ПОШТА.

**А. Ц.** Вашы „вершы“ паслалі ў кошык, стуль праз комін на Марс, — можа там іх зьмесьцяць, бо ў Маланку не падходзяць. Для прыкладу прывядзём маленькую частку з Вашага вершу „Навука для дзяўчат“:

«З хлапцом вя будзь халодным лёдам,
«Каб ён рук ня мусіў грэць,
«Каб пасьля ня ўмылась потам,
«Як пачне з табой шалець»...

Шкада, што дзяўчаты ня знаюць Вашага прозьвішча і адрэсу, а то яны-б напэўне выдзерлі Вам вушы за такую „поэзію“.

**Селянін Бедны**: Вашы жарты так сама, як і Вы, бедныя... на гумар. Шкада толькі Вашых стратаў на маркі і паперу.

**П. К.** Ліст свой да нас пачынаеце так:

„Паважаны Рэдактар прашу зьмесьціціць у „Маланцы“ хоць невялічкую частку апавяданьня Каз... Казла. Прашу раз і другі раз. П. К.“.

Прачыталі мы раз і другі раз гэтае „апавяданьне“ і... кінулі яго ў кошык, а кошык цяпер у нас вялікі (новы купілі), пуды са тры такіх Вашых „апавяданьняў“ зьмясьціць можа. З таго, што Вашы сабакі кусалі дзяўчыну за лыдкі і Вы бачылі і не баранілі, ніхто, напэўна, сьмяяцца ня будзе.

**Базыль Клык**: Кепскія жарты з Вашых жартаў! За Ваш даплатны ліст прышлося нам даплаціць, а „жарты“ кінуць у кошык. Не наводзьце нас на страты, мы і бяз Вас чуць дыхаем.

**Шарм...** Слабавата.

**Канановіч**: З прысыланых нам рукапісаў, лепшыя зьмяшчаем у „Маланцы“, а горшыя пасылаем у... кошык, (куды пайшлі і Вашы „жарты“). Лістоўна, у такіх выпадках, не адпісваем.

**В. Шаг**: Відаць Ваша здрадная Люля, якой Вы пасьвячаеце свой верш „Ня вер...“, вельмі Вам дапякла, бо верш свой Вы пачынаеце так:

«Ня вер каханьню ты жанчыны;
«Каханьне — ў байках, — яно мана!
«Ня вер нявіннасьці дзяўчыны,
«Ня вер ты ёй, — маніць яна!...»

За такія вершы дзяўчаты могуць на нас зазлаваць, а навет і вайну абвясьціць. Ого, з цяперашнімі дзяўчатамі жарты малыя!

# Як чытачы „Маланкі“ прадстаўляюць сабе „Спадара“.



Як вядома, пасол Янка „Спадар“ (запраўднае прозьвішча яго крыху інакш) у Сойме не належыць да ніводнага клюбу, а сядзіць там адзін, як сьвяты турэцкі. Такога пасла ў Сойме завуць „дзікім“. Хто гэтага пасла ня бачыў асабіста, той яго прадстаўляе больш-менш так, як вышэй на рысунку.



Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 2**
«МАЛАНКА»

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
на 1 год 8 злот.
„ паўгода 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „
За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт.

Рэдактар М. Луцэвіч. — Выдавец: Я. Маразовіч. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.